Гродна
№20 (526),
10 лістапада 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Марыя – мацярынскае аблічча міласэрнасці

“ВІТАЙ, ПАННА, НЯСТОМНАЙ ПАШАНАЙ УСІХ ЛЮДЗЕЙ”, – СПЯВАЮЦЬ ВЕРНІКІ ДА МАЦІ МІЛАСЭРНАСЦІ Ў САНКТУАРЫІ Ў ВОСТРАЙ БРАМЕ (ЛІТВА). НА ПРАЦЯГУ МНОГІХ СТАГОДДЗЯЎ І ДА СЁННЯ СЮДЫ ПРЫБЫВАЮЦЬ ТЛУМЫ ПІЛІГРЫМАЎ З УСЯГО СВЕТУ, КАБ ПАДЗЯКАВАЦЬ МАЦІ БОЖАЙ ЗА АТРЫМАНЫЯ ЛАСКІ. УДЗЯЧНАСЦЬ ВЕРНІКАЎ СІМВАЛІЗУЮЦЬ ТЫСЯЧЫ ТАБЛІЧАК, ГАРЖЭТАЎ, КАШТОЎНАСЦЕЙ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў КАПЛІЦЫ.

● працяг на с. 4

# З Богам у сэрцы, з музыкай праз жыццё

МАР’ЯН СКРАМБЛЕВІЧ З АДЭЛЬСКА З ДЗЯЦІНСТВА БЫЎ ЗВЯЗАНЫ З МУЗЫКАЙ: УПЕРШЫНЮ ЗАЙГРАЎ НА ВЯСЕЛЛІ Ў 12-ГАДОВЫМ УЗРОСЦЕ, БОЛЬШ ЗА 30 ГАДОЎ КІРАВАЎ ХОРАМ ДЫ АРКЕСТРАМ ГРОДЗЕНСКАГА АЎТАПАРКА І ЎЖО НА ПРАЦЯГУ 20-ЦІ ГАДОЎ САМ СТВАРАЕ МУЗЫЧНЫЯ ІНСТРУМЕНТЫ.

● працяг на с. 5



*Мар’ян Скрамблевіч – Ганаровы грамадзянін Гродзенскага раёна, лаўрэат прэміі “Чалавек года Гродзеншчыны”*

“Спазнаем міласэрнасць Бога. Хай Маці Міласэрнасці атуліць!”. Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XXXII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
Лк 20, 27–38

Тады падышлі некаторыя з садукеяў, якія казалі, што няма ўваскрашэння, і спыталіся ў Яго: "Настаўнік, Майсей напісаў нам, што калі ў некага памрэ брат, які меў жонку, і памрэ бяздзетны, то брат ягоны павінен узяць ягоную жонку і абудзіць патомства свайму брату. Было ж сем братоў. Першы, узяўшы жонку, памёр бяздзетны. Потым другі, і трэці ўзяў яе, таксама і ўсе сямёра, не пакінуўшы дзяцей, памерлі. Урэшце, памерла і жонка. Дык вось, пасля ўваскрашэння, катораму з іх яна будзе жонкаю? Бо ў семярых яна была жонкаю". Езус сказаў ім: "Дзеці гэтага веку жэняцца і выходзяць замуж. А тыя, хто будзе годны таго веку і ўваскрасення з мёртвых, не будуць ні жаніцца, ні выходзіць замуж, ні памерці ўжо не змогуць, бо яны роўныя анёлам і з'яўляюцца сынамі Божымі, будучы сынамі ўваскрасення. А што мёртвыя ўваскрэснуць, і Майсей засведчыў, кажучы пра куст, калі назваў Пана «Богам Абрагама, і Богам Ісака, і Богам Якуба». Бог жа не ёсць Богам мёртвых, але жывых, бо ўсе для Яго жывуць".

### ВЕРА ВА ЎВАСКРАШЭННЕ

Навіны пра бясконцыя трагедыі ў свеце – авіякатастрофы, аварыі, тэрарыстычныя акты – прыводзяць да таго, што частка грамадства прывычна ўспрымае смерць, якая збірае "багаты ўраджай". Толькі адыход блізкай асобы ці невылечная хвароба можа прымусіць чалавека ўсвядоміць, што смерць рэальная і датычыць кожнага.

Звычайна тады прыходзіць роздум над уласным жыццём, над яго далікатнасцю і мінучасцю. Узнікаюць пытанні: у чым сэнс майго існавання? калі яно скончыцца? што будзе пасля смерці?

Падобныя пытанні ў прыведзеным фрагменце Евангелля задаюць Езусу асобы, якія ўпрасцілі чалавечае жыццё выключна да зямнога існавання. Хрыстос, бачачы памылковасць іх поглядаў, тлумачыць, што нельга параўноўваць вечнасць з зямной рэчаіснасцю. Гэта два розныя светы, кіруемыя рознымі законамі. Пра нябесны свет з упэўненасцю можна сказаць толькі тое, што там усе будуць жыць для Бога, бо Ён "не ёсць Богам мёртвых, але жывых".

Каб жыць вечна, нам трэба памерці для зямлі, як зярнятка ў глебе, і тады прарасцём на векі!

**Як часта я думаю пра вечнае жыццё?**

**Як клапачуся пра якасць сваёй веры, якая вядзе да сузірання шчасця?**

### XXXIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
Лк 21, 5–19

Калі некаторыя гаварылі пра святыню, што яна ўпрыгожана каштоўнымі камянямі і дарамі, Езус сказаў: "Прыйдуць дні, калі з таго, што вы тут бачыце, не застанецца каменя на камені, які не будзе паваленым". І спыталіся ў Яго: "Настаўнік, калі ж гэта станецца і што будзе знакам, калі гэта павінна адбыцца?". Ён сказаў: "Глядзіце, каб вас не звялі, бо шмат хто прыйдзе пад імем Маім, кажучы: «гэта Я» і «наблізіўся час». Не ідзіце за імі. Калі ж пачуеце пра войны і хваляванні, не палохайцеся, бо спачатку гэта павінна адбыцца, але канец не адразу". Тады сказаў ім: "Паўстане народ на народ, і каралеўства на каралеўства; будуць вялікія землятрусы, а месцамі голад і мор, і жахлівыя з'явы, і вялікія знакі з неба. Але раней за ўсё гэта накладуць на вас рукі свае і будуць праследаваць вас, аддаючы ў сінагогі і ў вязніцы, і паставяць перад каралямі і валадарамі за імя Маё. І будзе гэта вам на сведчанне. Таму пастанавіце ў сэрцы сваім не клапаціцца наперад, як абараніцца, бо Я дам вам вусны і мудрасць, якой не здолеюць супрацьстаяць ці супярэчыць праціўнікі вашыя. Выдаваць вас будуць таксама бацькі, і браты, і родныя, і сябры, а некаторых з вас заб'юць. І ўсе зненавідзяць вас за імя Маё. Але і волас з галавы вашай не прападзе. Цярпеннем сваім уратуеце жыццё вашае".

### ГАТОЎНАСЦЬ ДА ПРЫХОДУ БОГА

Мноства фальшывых прарокаў – прадстаўнікі разнастайных сект – спрабуюць вызначыць дату канца свету. Яны спасылаюцца на розныя прадказанні, варажбы і прыкметы, таксама і на тыя, якія пералічвае Езус у дадзеным фрагменце Евангелля: войны, землятрусы, голад, мор, знакі з неба. На гэтую тэматыку сённяшнія паўстаюць усё новыя і новыя фільмы, друкуюцца шматлікія кнігі і артыкулы. Многія людзі даваляюць сябе падмануць і замест таго, каб клапаціцца аб збаўленні сваёй душы, яны ахоўваюць маёмасць, рыхтуюць сховішчы, назапашваюць правізію.

Для нас, хрысціян, вызначальнікам думак пра канец свету павінны быць словы Езуса: "А пра дзень той або гадзіну ні анёлы ў небе, ні Сын, ніхто не ведае, а толькі Айцец" (Мк 13, 32). Мы пакліканы засяроджана чакаць паўторнага прыйсця Хрыста, каб дзякуючы стойкасці веры здабыць вечнае жыццё.

Хоць думкі пра Апошні Суд могуць абудзіць пачуццё страху, не трэба расчароўвацца. Бог любіць кожнага з нас! Яго Сын збавіў чалавека сваёй найдаражэйшай Крывёю. Прыходзячы ў якасці Суддзі, Ён, бясспрэчна, пакажа паўнату сваёй міласэрнасці. Калі б толькі мы хацелі прызнаць сваю маласць і грэшнасць, калі б толькі адкрылі сваё сэрца Яго любові…

**Як я рыхтуюся да сустрэчы з Богам у вечнасці?**

**Што раблю, каб выратаваць сваю душу?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

---

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Міласэрная Пані

*Бог адкрываецца чалавеку праз сваю міласэрнасць. Як адзначаў св. Ян Павел ІІ, людзі "міласэрную любоў лягчэй за ўсё прымаюць ад Маці" (Dives in misericordia, № 9). Таму нічога дзіўнага, што ад пачатку хрысціянства вернікі звярталіся да Марыі як Маці Міласэрнасці, спадзеючыся, што дзякуючы Яе заступніцтву Бог адорыць іх прабачэннем.*

Слуга Божы кард. Стэфан Вышыньскі, які будзе абвешчаны благаслаўлёным у наступным годзе, разважаючы ў турэмнай камеры аб жыцці Беззаганнай, занатаваў: "Ты кіравалася за Сынам Божай любові ўсюды, каб своечасова падказваць: віна не маюць, хлеба не маюць, любові не маюць, ласкі не маюць, сэрца шукаюць... Ці ў Кане, ці на Галгофе, ці сёння – па правіцы Збаўцы, у Небе – Твая міласэрнасць амаль заўсёды ўсміхаецца праз слёзы. Заўсёды там, дзе мука сумненняў. І толькі калі слёзы абмыюць вочы і сэрца ад пылу зямлі, яны заўважаюць міласэрнасць Пана і багатае ў Яго адкупленне".

Найсвяцейшая Пані аб'яўляе свету, якую вялікую моц мае Божая міласэрнасць, адраджаючы ў людскіх сэрцах надзею на Яго літасць. Набліжае чалавеку любоў Стварыцеля асабліва плённа, паколькі ў яе аснове ляжыць незвычайная ўспрымальнасць мацярынскага сэрца, невымерная адчувальнасць, выключная здольнасць знаходзіць падыход да ўсіх…

На гродзенскіх землях Марыя як Маці Міласэрнасці ўшаноўваецца ў Вастрабрамскім абразе ўжо больш за 300 гадоў. Культ пашырыўся яшчэ больш, калі Маці Божая Вастрабрамская была выбрана галоўнай заступніцай дыяцэзіі. Выява Беззаганнай са скрыжаванымі на грудзях далонямі нібыта ахінае пяшчотай і любоўю ўвесь свет.

**Дарагія Чытачы!**

Стараймася пераймаць Марыю ў паставе слугі, паколькі міласэрныя атрымаюць міласэрнасць (параўн. Мц 5, 7). Звяртаемся да Маці Міласэрнасці асабліва тады, калі нас прыгнятае жыццё, калі мучыць неспакой, калі пакутуем, абцяжараныя грахамі, калі губляем надзею. У Яе шукаем суцяшэння, падтрымкі і дапамогі.

Няхай нашы сэрцы, вочы і далоні будуць адкрыты на патрэбы бліжніх, а Беззаганная атуліць кожнага плашчом міласэрнасці! Шчыра падзякуем Найсвяцейшай Маці за ўсе ласкі, якія атрымалі праз Яе заступніцтва.

---

ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ

ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Камісія па грамадскіх справах і прававых адносінах са свецкімі ўладамі

Пан Езус даручае кожнаму асабістую місію. Свецкія католікі як члены Хрыстовага Касцёла маюць заданне распазнаць прыроду свайго паклікання, годнасці, духоўнасці і адказнасці. Праз прыняты сакрамант св. хросту яны ўключаюцца ў паўсюднае святарства, г. зн. асабіста ўдзельнічаюць у святарстве Хрыста, ахвяруючы сябе самых і ўсе свае ўчынкі.

Дыяцэзіяльны сінод падкрэслівае, што свецкія асобы здзяйсняюць першую і найважнейшую місію Касцёла, якой з'яўляецца асвячэнне справы стварэння. Рэалізуюць яе, калі жывуць таямніцамі Хрыста, удзельнічаюць у апостальскай місіі Касцёла праз сямейнае, прафесійнае жыццё, дзейнасць у галіне культуры і адпачынку, грамадскія, эканамічныя, палітычныя адносіны.

Камісія прыгадвае, што Касцёл не можа заставацца абыякавым да людскіх праблем і іх наступстваў, таму ў межах сваёй кампетэнцыі прагне ўдзельнічаць ва ўсіх складаных працэсах, якія адбываюцца ў грамадстве. Яго абавязкам з'яўляецца маральная ацэнка непакоячай сітуацыі, фармуляванне адпаведных указанняў, а таксама пошук новых шляхоў для паляпшэння жыцця людзей.

Між іншым, члены Камісіі ўказваюць на існуючыя негатыўныя з'явы ў дыяцэзіі, такія як беспрацоўе, пашырэнне асяроддзя людзей, выключаных з грамадства, залежнасць ад азартных гульняў, парнаграфіі, алкаголю (у тым ліку п'янства сярод дзяцей і моладзі), наркотыкаў і інш. Мэтай Камісіі з'яўляецца заклік вернікаў да салідарнасці ў дзеяннях, якія дапамогуць пераадолець паталогіі грамадска-эканамічнага жыцця. Навучанне Касцёла выводзіцца з Евангелля і з'яўляецца дэталізацыяй яго ўказанняў у жыцці. Такім чынам, кожны хрысціянін абавязаны прадпрымаць дзеянні, накіраваныя на стварэнне больш справядлівага і чалавечнага свету.

Члены Камісіі рэкамендуюць святарам у вядзенні душпастырства імкнуцца да паглыблення сацыяльнага вучэння Касцёла, асноўным чынам праз распаўсюджванне звязаных з ім дакументаў, асабліва папскіх сацыяльных энцыклік, і катэхезу для дарослых. Да свядомасці вернікаў неабходна данесці, што Касцёл прымае актыўны ўдзел у стварэнні грамадскай сістэмы, у якой найбольшымі каштоўнасцямі з'яўляюцца справядлівасць, роўнасць і шанаванне годнасці кожнага чалавека.

Ахінём малітвай усіх членаў Камісіі, каб іх праца паспрыяла супольнаму дабру ў нашым грамадстве.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# ЯК РАСПАЗНАЦЬ БОЖУЮ ВОЛЮ Ў СВАІМ ЖЫЦЦІ?




Воляй Бога заўсёды з'яўляецца дабро чалавека, у першую чаргу, безумоўна, вечнае. Пан Езус сказаў: ***"Бо такая воля Айца Майго, каб кожны, хто бачыць Сына і верыць у Яго, меў жыццё вечнае. І Я ўваскрашу яго ў апошні дзень" (Ян 6, 40).*** У Небе ўсе анёлы і святыя шчаслівыя, таму што выконваюць Божую волю. Аднак мінучы лёс чалавека таксама не абыякавы Стварыцелю. Ён прагне, каб мы тут, на зямлі, дасканалым чынам выконвалі Яго волю, заўсёды ішлі па дарогах дабра і такім чынам былі напоўнены ласкамі і дасягалі збаўлення.

На жаль, людзі неаднойчы памылкова разумеюць Божую волю. Ім здаецца, што яна патрабуе адмаўлення ад сваіх жаданняў, абавязковай згоды на цярпенне, няшчасце. Такая пастава вынікае з фальшывага вобразу Стварыцеля. Але план Пана заключаецца ў тым, каб чалавек быў шчаслівы ўжо ў зямным жыцці!

Як распазнаць Божую волю? Першым крокам да гэтага з'яўляецца жаданне пазнаць яе і гатоўнасць сэрца прыняць і выканаць. Важна, каб тое, што мы хочам рабіць, не супярэчыла Божым і касцёльным запаведзям. Таму ўчынак павінен грунтавацца на любові да Пана, бліжніх і самога сябе. Важнае значэнне мае таксама малітва аб распазнанні Божай волі і жыццё ў стане ласкі, г. зн. без смяротных грахоў. Калі ж іх дапускаем, не здольны распазнаць волю Нябеснага Айца.

***"Няведанне Святога Пісання з'яўляецца няведаннем Хрыста",*** – сцвярджаў св. Геранім. У Бібліі Бог гаворыць, што маем рабіць, а якіх учынкаў пазбягаць. Напрыклад, у адным з пасланняў св. апостала Паўла чытаем: ***"Бо воля Божая – гэта вашае асвячэнне, каб вы асцерагаліся распусты" (1 Тэс 4, 3).*** Гэты радок канкрэтным чынам указвае, што чалавек павінен імкнуцца да чысціні ў адносінах, каб дасягнуць святасці. Далей св. Павел піша: ***"За ўсё дзякуйце, бо такая адносна вас воля Божая ў Езусе Хрысце" (1 Тэс 5, 18).*** Таму мы павінны дзякаваць ва ўсіх абставінах свайго жыцця. На старонках Святога Пісання знаходзім таксама фрагменты, у якіх Усемагутны наказвае, каб былі сумленнымі, каб любілі сваіх непрыяцеляў, каб каяліся ў сваіх грахах і г. д. Добрым спосабам для распазнання Божай волі, з'яўляецца задаванне сабе пытанняў, што ў гэтай канкрэтнай сітуацыі зрабіў бы Збаўца, што зрабілі б апосталы ці хтосьці са святых?

***"Я кажу праўду ў Хрысце, не хлушу, і пацвярджае маё сумленне ў Святым Духу" (Рым 9, 1).*** Бог запісаў маральны закон у людскія сэрцы. Сумленне павінна служыць чалавеку ў распазнанні волі Найвышэйшага. Самае простае азначэнне падае, што сумленне – голас самога Бога, які раздаецца ў нас і вучыць аб дабры, якое маем чыніць, і аб зле, якога павінны пазбягаць (параўн. ККК 1776). Катэхізіс Каталіцкага Касцёла таксама павучае, што нават калі гэты голас у нас з-за дрэнных учынкаў аслабне, усё ж ніколі не замаўчыць (параўн. ККК 1865). Ён з'яўляецца свайго роду духоўным компасам, які да канца зямнога жыцця будзе ўказваць правільны напрамак.

***"Таму што Бог даў нам не духа боязі, але сілы, любові і разважнасці" (2 Цім 1, 7).*** Бог стварыў Сусвет паводле пэўнага мудрага плану. Даў чалавеку здаровы розум, каб мог распазнаваць Яго волю ў гэтым свеце. Здзяйсненне пэўных функцый падказвае нам менавіта розум (напрыклад, што мужчына пакліканы быць бацькам, а жанчына – маці, што бацькі павінны выхоўваць сваіх дзяцей і г. д.). Гэта настолькі відавочна, што не патрабуе ніякіх знакаў ад Бога. Воляй Стварыцеля з'яўляецца трыванне ў сваім пакліканні – святарстве ці сямейным жыцці. Мы не можам парушыць абяцанні, якія далі. Калі штосьці патрабуе парушэння гэтых прысяг, яно не з'яўляецца Божай воляй. Пан жадае таксама, каб развівалі і плённа выкарыстоўвалі кожны талент, якім былі адораны.

***"Неразумны пагарджае настаўленнем айца, хто прытрымліваецца парад – мудрэе" (Прып 15, 5).*** У распазнанні волі Бога могуць дапамагчы іншыя людзі, бо яны валодаюць ведамі і пэўным досведам. Гледзячы з адлегласці, могуць ацаніць сітуацыю аб'ектыўна, без эмоцый. Напрыклад, манаская асоба павінна ўзгадняць свае ўчынкі з настаяцелямі, святар – з біскупам ці сваім пробашчам, чалавек, які мае сям'ю – са сваім сужэнцам, самотны можа параіцца з душпастырам. Важна памятаць, што таму, хто хоча прагрэсу ў духоўным жыцці, неабходна мець добрага духоўнага кіраўніка, які дапаможа ў распазнанні знакаў дзеяння Пана.

Калі мы будзем шчыра шукаць Божую волю, напэўна яе знойдзем. А калі ўжо знойдзем яе – у Бібліі, у нашым сумленні, рацыянальным чынам, пры дапамозе іншых людзей – абавязкам стане падпарадкаванне ёй, паколькі гэтага патрабуе ўласная карысць, шчасце і збаўленне. Бог заклікае весці жыццё, якое згодна з кожным словам, што паходзіць з Яго вуснаў. А Яго волю адносна нас слушна можна перадаць адным сказам са Святога Пісання: ***"Будзьце святымі, таму што Я святы" (1 П 1, 16).***

*Кс. Аляксандр Сямінскі*




***Сёлета была ў пілігрымцы да Маці Божай Тракельскай. Дзякавала Найсвяцейшай Панне Марыі за ласкі, якія атрымала праз Яе заступніцтва.***

*Я выйшла замуж у 1972 годзе. Нарачоны быў праваслаўным. Павянчаліся. Нарадзілі дачок. Высветлілася, што муж выпівае. Пасля 13-ці гадоў шлюбу разышліся. Жылі асобна, у сепарацыі. Доўгія гады пра яго нават не ўспаміналa.*

*Сама шмат малілася, у розных інтэнцыях. А аднойчы прыйшла думка: "Трэба ахвяраваць малітву за мужа, каб не памёр ад алкаголю ў смяротным граху, каб хоць перад смерцю пакаяўся перад Богам".*

*Праз нейкі час мне патэлефанавалі дочкі і паведамілі, што бацька ў бальніцы. Я схадзіла да споведзі і атрымала пакуту наведаць мужа і папрасіць у яго прабачэння. Гэта было 2 жніўня 2001 года, акурат на свята Маці Божай Анёльскай. У гэты ж дзень я пайшла ў бальніцу. Дачка запрасіла святара. Праз 3 дні, на свята Маці Божай Кангрэгацкай, муж адышоў у вечнае жыццё. Упэўнена, што гэта праз Найсвяцейшую Панну Марыю Бог выслухаў нашы малітвы і адарыў яго такой ласкай.*

*У жыцці мы неаднойчы спазналі Божую прыхільнасць. Калі я даведалася, што павінна нарадзіцца другая ўнучка, нястомна малілася за яе. Урачы не рэкамендавалі дачцэ нараджаць, яе муж таксама быў супраць, а яна адважылася. Я знайшла ў бібліятэцы кнігу пра св. Антонія Падуанскага, раздзяліла яе на 9 месяцаў і кожны дзень чытала ўрыўкамі. Нарадзілася дзяўчынка: разумная, прыгожая. Страшна падумаць, што яе магло б не быць на гэтым свеце…*

***Сёння мне 68 гадоў. На сваім лёсе я ўпэўнілася, як Бог дапамагае перажыць шматлікія цяжкасці, дадае сіл, часамі далікатна накіроўвае і заўсёды знаходзіцца побач. Вельмі ўдзячна бацькам, якія прышчапілі мне веру ў Бога. Пранесла яе праз усё жыццё і буду несці далей, да сваіх апошніх дзён.***

*Гэлена, Гродна*

***Веру ў Бога мне перадала бабуля. Памятаю, што дома перад тым, як класціся спаць, я адгаворвала вячэрнюю малітву. Калі праходзіла каля касцёла, рабіла на сабе знак крыжа.***

*Пасля паехала на вучобу. Але ніколі не забывала пра Бога. Выйшла замуж. Дзяцей таксама выхоўвала ў веры, прывяла да першых сакрамантаў.*

*Стаў моцна выпіваць муж. Дома пачаліся скандалы. З кожным днём станавілася ўсё горш. Я вельмі хвалявалася, што дзеці выхоўваюцца ў сям'і, дзе бацька злоўжывае алкаголем. Найбольшым страхам было, што могуць пайсці па яго слядах. Чаго баялася, тое і здарылася…*

*Старэйшы сын пасля арміі не мог уладкавацца на працу. Запіў. Мяне не слухаў – дарослы, на ўсё сваё меркаванне. Я сварылася, крычала. Зразумела, што адна не дам рады. Прыходзіла ў касцёл, каялася і прасіла ў Бога на каленях дапамогі.*

*Як здарылася бяда, стала ўспамінаць усе свае грахі, нават тыя, якім раней не надавала значэння. А грахоў было так шмат… Многае не разумела, калі парушала запаведзі. Сорамна, але крыўдзілася на Бога, калі што ў жыцці ішло не так.*

*І тут сын рэзка кінуў піць. Пачаў рабіць добрыя справы, усім дапамагаць і расказваць, што размаўляе з Богам. Я ўзрадавалася. А пасля стала заўважаць, што ён неўранаважаны. Ходзіць па хатах, арганізацыях і вучыць усіх правільна жыць. Перастаў спаць ноччу. Гаворыць, што Бог дазваляе не спаць. Не хацела верыць, што сын хворы. Запрасіла святара. Той сказаў, што трэба лячыцца. Тады была вымушана звярнуцца ў бальніцу. Урач паставіў дыягназ, што хвароба невылечная.*

*А потым я пачула пра рэкалекцыі вядомага місіянера а. Джэймса Манджакала ў Росі. Гэта было ў 2011 годзе. Мы з сынам запісаліся і паехалі. Удзельнічалі ўсе 4 дні. Выязджалі з дому на світанні і вярталіся апоўначы. Я верыла ў тое, што Бог дапаможа, вельмі моцна. Малілася, была ў споведзі за ўсё жыццё. На каленях вымальвала прабачэнне.*

*І ў нашай сям'і пачалі адбывацца неверагодныя рэчы! Патэлефанавала нявестка майго малодшага сына і гаворыць: "Цуд! Сяргей дастаў бутэльку, паставіў шклянку. Хацеў выпіць, але раптам застыў і сказаў, што не хоча". Бог паказаў сыну, што мацнейшы за злога духа. Старэйшы таксама перастаў злоўжываць алкаголем. Пачаў прымаць медыкаменты і хадзіць у касцёл. Так спакой прыйшоў у наш дом.*

*З падзякай за атрыманыя ласкі я стала маліцца штодня Вяночкам да Божай міласэрнасці. Штодня адгаворваю Ружанец. У цяжкія часы я наведвала санктуарыі Маці Божай у Будславе, у Гудагаі. Паабяцала Найсвяцейшай Панне Марыі, што буду маліцца да Яе да канца жыцця.*

***Я перастала плакаць, радуюся жыццю. Вельмі ўдзячна Богу за сілы і ласкі, якімі адорвае мяне і маю сям'ю. Буду дзякаваць Яму, колькі буду жыць!***

*Валянціна*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Урачыстасць Усіх Святых нагадвае нам, што кожны пакліканы да святасці. Святыя ўсіх часоў з'яўляюцца не проста сімваламі, далёкімі, недасяжнымі людзьмі. Наадварот, гэта асобы, якія жылі на зямлі. Яны зведвалі штодзённы цяжар існавання з яго поспехамі і падзеннямі, знаходзячы ў Пану моц, каб заўсёды падымацца зноў і працягваць шлях. З гэтага можна зразумець, што святасць – мэта, якой немагчыма дасягнуць толькі ўласнымі сіламі; гэта плён Божай ласкі і нашага свабоднага адказу на яе. Такім чынам, святасць – дар і пакліканне. Застаючыся Божай ласкай, Яго дарам, гэта штосьці, што не можам набыць або абмяняць, але прыняць, тым самым удзельнічаючы ў самім Боскім жыцці праз Святога Духа, які жыве ў нас з дня хросту. Зерне святасці – гэта менавіта хрост. Гаворка ідзе пра ўсё большае выспяванне ўсведамлення, што мы злучаныя ў Хрысце, як парастак з'яднаны з вінаграднай лазой, і таму можам і павінны жыць з Ім і ў Ім, як Божыя дзеці.*

*Фрагмент прамовы перад малітвай "Анёл Панскі" ў Ватыкане, 01.11.2019*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*У задушны дзень кожныя могілкі пераменяюцца ў амбон. Прыходзім сюды, таму што шукаем адказы на пытанні, якія заўсёды турбавалі ўсё чалавецтва. Чаму мы павінны паміраць? Чаму наша цела стане некалі слабым, нерухомым і з часам пераменіцца ў пыл? Што будзе далей? Ці існуе нейкая надзея, якая сягае па-за межы смерці? Проста кожнаму з нас хацелася б, каб жыццё не заканчвалася, кожны з нас мае прыроджанае жаданне бессмяротнасці…*
*Як запэўнівае св. Павел, "Хрыстос уваскрос, Першынец сярод тых, якія памерлі. […] Бо як у Адаме ўсе паміраюць, так і ў Хрысце ўсе будуць ажыўлены" (1 Кар 15, 20–22). "Калі ж мы памерлі з Хрыстом, то верым, што і жыць будзем з Ім, ведаючы, што Хрыстос, які ўваскрос, ужо не памірае, смерць ужо не мае над Ім улады" (Рым 6, 8–9).*
*Вера і надзея, якую ўскладаем на Божага Сына, дазваляюць нам трываць у еднасці з братамі і сёстрамі, якія пераступілі парог смерці і ўжо жывуць іншым жыццём – сапраўдным, вечным, бясконцым. Мы становімся ўдзельнікамі таямніцы еднасці святых. З памерлымі нас яднае штосьці большае, чым толькі памяць, удзячнасць, смутак і жаль. Мы складаем адну супольнасць, называемую Касцёлам.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай на францішканскіх могілках у Гродне, 02.11.2019*




◆ *Святы Айцец Францішак змяніў назву Ватыканскага сакрэтнага архіва. Цяпер ён будзе называцца Ватыканскі апостальскі архіў. Распараджэнне змешчана ў Апостальскім лісце "L'esperienza storica". "У некаторых сферах і асяроддзях, у тым ліку пэўнага культурнага значэння, гэтая назва набыла прадузятае значэнне чагосьці схаванага, закрытага, даструпнага толькі для вузкага кола людзей, – зазначыў Папа. – Ватыканскі сакрэтны архіў, аднак, заўсёды быў і імкнецца быць цалкам адваротным гэтаму". Установа захоўвае часткі кодэксаў і тэкстаў, якія знаходзіліся ў непасрэднай юрысдыкцыі Пантыфікаў.*

◆ *Старшыня Папскай рады па культуры кард. Джанфранка Равазі выказаўся наконт таго, што "нельга працягваць прымаць штодня дзесяткі тысяч наведвальнікаў у Сікстынскай капэле ў Ватыкане". Іерарх перакананы: трэба закрываць капліцу для цэлебрацыі св. Імшаў, а таксама ўвесці дадатковую плату за ўваход у святыню (выручку накіроўваць на ўтрыманне і захаванне помніка архітэктуры). У той жа час кард. Равазі падкрэсліў, што "людзі не павінны пазбаўляцца магчымасці захапляцца шэдэўрам".*

◆ *Біскуп Пол Джэймс з Вялікабрытаніі падарыў біскупу Санцьяга Оліверу з Аргенціны копію статуі Маці Божай з Лухана, нябеснай заступніцы Аргенціны. Гэта яшчэ адзін знак прымірэння паміж народамі. Статуя была дастаўлена ў Англію падчас узброенага канфлікту 1982 года, калі абедзве краіны ваявалі за права ўласнасці і кантролю над Фолклендскімі астравамі, архіпелагамі ля ўзбярэжжа Лацінскай Амерыкі. На захопленыя тэрыторыі статую прывезлі аргенцінскія салдаты. Пасля яна была канфіскавана англійскімі вайскоўцамі. Сёння статуя знаходзіцца ў саборы Ваеннага ардынарыяту ў Олдэршоце, дзе стала месцам малітвы за загінулых з абодвух бакоў.*

◆ *Галандскія медыкі выказаліся за права на эўтаназію для дзяцей ва ўзросце да 12-ці гадоў. Пра гэта стала вядома са справаздачы 32-ух педыятраў, якія займаліся цяжка хворымі пацыентамі. Яны мяркуюць, што "эўтаназія стала б лепшым рашэннем у 46-ці выпадках з 359-ці". Дакумент накіраваны ў парламент. З 2004 года ў краіне дзейнічае права на эўтаназію для дзяцей (са згоды бацькоў) ва ўзросце да 1-го года і ад 12-ці да 16-ці гадоў.*

◆ *Арцыбіскуп Парыжа Мішэль Опеці запрашае дзяцей з усяго свету прыняць удзел у конкурсе малюнкаў. Неабходна адлюстраваць сабор Нотр-Дам, "які яны ведаюць або ўяўляюць". Лепшыя работы будуць надрукаваны на заслонах вакол святыні, якая рэстаўрыруецца пасля пажару. Лісты на конкурс неабходна дасылаць да 1 сакавіка на адрас: Opération "Dessine-moi Notre-Dame", 10 rue du Cloître Notre-Dame, 75004, Paris.*

*vaticannews.va; credo.pro; ekai.pl*



# Марыя – мацярынскае аблічча міласэрнасці

● працяг са с. 1

***Копіі цудатворнага абраза Маці Божай Вастрабрамскай можна знайсці ў многіх дамах, жыхары якіх ахвотна даручаюць апецы Марыі свае справы: як узнёслыя, так і штодзённыя. Адной з такіх адданых шанавальніц міласэрнага позірку Нябеснай Маці з'яўляецца Крысціна Жулега, якая на працягу многіх гадоў клопаты, беды і радасці ахвярує "Той, якая ўсё разумее". Сёння на старонках "Слова Жыцця" жанчына распавядае сваю жыццёвую гісторыю.***

## СТОЙКАСЦЬ І НАДЗЕЯ, ПАГРУЖАНАЯ Ў ЦЯРПЛІВАСЦЬ

На працягу 35-ці гадоў мы разам з мужам працавалі ў Жырмунах. Гэта былі камуністычныя часы. Мы, як і іншыя, павінны былі навучыцца даваць сабе рады ў той сістэме. Хоць часам было вельмі цяжка, дзякуючы апецы Маці Божай неяк спраўляліся. Вялікай падтрымкай былі мясцовыя жыхары – вельмі працавітыя, інтэлігентныя, цудоўныя людзі з добрым і чулым сэрцам.

Памятаю, у 70-ых гадах мы паехалі з дэлегацыяй у Балгарыю. Там свабодна прадаваліся абразкі, крыжыкі, ружанцы, таму кожны купіў нешта і для сябе, і для сям'і, і для знаёмых. Вельмі цешыліся, таму што на радзіме дэвацыяналіі і рэчы рэлігійнага культу былі забаронены. Аднак на мяжы ў нас усё адабралі. Мой муж як адказны за групу спрабаваў растлумачыць, што ў краіне, адкуль вяртаемся, гэтыя рэчы прадаюцца ў краме, а не з-пад крыса. Канешне, аргументы не падзейнічалі, а муж яшчэ і вымову атрымаў.

Калі толькі была магчымасць, я старалася зладзіць для жыхароў Жырмунаў паездку ў Вільнюс. Афіцыйна называла яе экскурсіяй, але на самой справе гэта была пілігрымка. Аўтобус на 30 чалавек, які на пазычаў калгас, не мог змясціць усіх жадаючых. Калі мы прыязджалі ў Вільнюс, я прасіла вадзіцеля пакінуць аўтобус дзе-небудзь недалёка ад цэнтра, каб пешшу спакойна дайсці да Вострай Брамы.

З часам, калі дзеці трохі падраслі, брала іх з сабой і разам на каленях мы ўваходзілі па прыступках з малітвай і просьбамі да любімай Маці. Кожная такая паездка заканчвалася добра. Калі пасля вяртання ў нас пыталіся, як прайшло падарожжа, распавядалі, што наведвалі горад, музеі, гару Гедыміна. Вядома, пра Вострую Браму ніхто нават не ўпамінаў, бо інакш нам пагражала б вялікая небяспека.

Затым надышлі не скажу, што лепшыя, але лягчэйшыя часы. Я разам з іншымі вернікамі прыклала намаганні, каб у мясцовую парафію вярнуўся святар. Будучы кіраўніком Дома культуры арганізавала там заняткі рэлігіі, якія праводзілі манаскія сёстры з Ліды. Падумала: будзь што будзе, але маладое пакаленне павінна атрымаць хаця б зародкі духоўнасці, з якой так заўзята змагаліся савецкія ўлады. Мяне тады выклікалі ў райкам партыі і спыталіся: "То што, Крысціна Аляксандраўна, Вы даследчыца духоўнага выхавання?". Я адказала, што ўжо ў многіх месцах клапоцяцца пра рэлігійную фармацыю маладога пакалення, паколькі толькі на духоўным падмурку можна збудаваць добрыя якасці. У гэтым не бачыла нічога дрэннага.

## СОН

У тыя атэістычныя часы нам цяжка было захоўваць сваю веру. Мы з мужам займалі высокія пасады на працы, таму ўсё павінны былі рабіць употай: і ў касцёл хадзіць, і маліцца. Памятаю, што перад Божым Нараджэннем мы заўсёды завешвалі вокны, каб ніхто не бачыў, што раней паставілі елку. А каб на Вялікдзень мець магчымасць падзяліцца яйкам, трэба было альбо самому хавацца па дарозе ў святыню, альбо прасіць кагосьці, каб асвяціў. А ў маёй сям'і, колькі сябе памятаю, гэтыя святы былі самымі важнымі днямі ў годзе.

Абраз і крыж я хавала за шафай, тлумачачы сабе ў сэрцы, што Пан Бог жа ўсё бачыць і ведае. Гэта павінна было засцерагчы нас ад небяспекі: калі б нехта чужы прыйшоў у дом, на сценах убачыў бы толькі вышыванкі.

Аднойчы мне прысніўся незвычайны сон. Пазіраю праз акно на кароў, якія ходзяць па прыгожым зялёным лузе, і кажу: ***"Божа, дзякую Табе за такі цудоўны дзень!"***. У гэты момант гляджу на сцяну і бачу там нібы вобраз Маці Божай. Ён зззяе ў арэоле святла, зусім іншы, чым у рэчаіснасці. А Марыя кажа мне: ***"І не сорамна табе, што молішся, але дагэтуль яшчэ баішся? Паглянь, што робіцца ў свеце"***. Зноў пазіраю ў акно – а там столькі святла, такія радасныя вясёлкі... Пасля чаго адказваю: ***"Маці Найсвяцейшая, я ўсё зразумела, прабач мне, Валадарка неба і зямлі! Даруй, што да гэтага часу не размясціла Твой абраз у найпрыгажэйшым месцы ў доме!"***. Я падаю на калені і пачынаю маліцца. Марыя ж адказвае: ***"Не бойся і скажы ўсім, каб не баяліся. Я бласлаўляю вас і ўвесь свет"***.

Пасля гэтых слоў я прачнулася і ўбачыла, што сапраўды нібы справу ўкленчыць. Пачала прасіць: ***"Маці, злітуйся, прабач!"***. Потым устала, паглядзела ў акно, убачыла, як каровы ідуць на луг. Дрыжачымі рукамі дастала абраз з-за шафы, пастанавіўшы, што з гэтага моманту ён будзе вісець на самым бачным месцы. Хутка прачнуўся муж і ўбачыў на сцяне абраз. Я сказала яму, што мела сон, у якім Маці Божая дала мне знак, што мы ўжо не павінны баяцца, таму з гэтага часу не будзем падчас малітвы хавацца ля шафы. Муж пагадзіўся: ***"Добра, калі ты так вырашыла, то як штосьці здарыцца, будзем цярпець разам"***. Аднак Марыя стрымала абяцанне – хутка ў краіне запанавала рэлігійная свабода і ніхто ўжо не быў вымушаны ўтойваць сваю веру.

*Занатоўвала Кінга Красіцкая*


*У віленскі санктуарый увесь час прыбываюць шматлікія пілігрымы, верачы, што Вастрабрамская Панна з'яўляецца моцнай заступніцай у Небе*

## Малітва да Маці Божай Вастрабрамскай

**Беззаганная Маці Божая, Каралева неба, Маці міласэрнасці, Заступніца і Прытулак грэшнікаў! Вось я, натхнёны ласкамі, якія Ты так шчодра выпрасіла для мяне сваёю мацярынскаю ласкавасцю са скарбаў любові Божай, пастанаўляю цяпер і назаўсёды аддаць у Твае рукі сваё сэрца, каб Ты прысвяціла яго Езусу. Амэн.**

# З Богам у сэрцы, з музыкай праз жыццё

● працяг са с. 1


З арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам Мар'ян Скрамблевіч сябруе з дзяцінства

### НЕЗВЫЧАЙНЫ ЧАЛАВЕК

Музычны шлях спадара Мар'яна пачаўся ў святыні. Падлеткам ён прыходзіў у мясцовы касцёл, дзе напампоўваў паветра ў мяхі аргана. ***"Нас, такіх памагатых, у арганіста чалавек 10 было. Матор для вялізнага духавога інструмента ў той час яшчэ не вынайшлі, і мы падмянялі адзін аднаго падчас св. Імшы, па чарзе прыводзячы арган у рух",*** – узгадвае мужчына.

Сёння духавыя інструменты спадар Мар'ян майструе самастойна. У яго калекцыі дзесяткі дуд і дудачак, рагоў і ражкоў, жалеек і акарын. ***"У дзяцінстве да касцёла бегалі разам з сябрам Тадзікам*** *(сённяшні арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч – заўв. аўт.)*, ***што жыў па суседстве. Дык нядаўна ён, як убачыў мой асартымент музычных інструментаў, адразу запытаўся ад здзіўлення: «І гэта ўсё тваё?! Ты калі столькі ўсяго нарабіў?»,*** – распавядае з усмешкай музыка.

Спадара Мар'яна наведвае шмат высокіх гасцей. Прыязджаюць музыкі, прафесары, дыпламаты з усёй Беларусі і з-за мяжы. Кожны хоча ўбачыць і пачуць непаўторныя ў сваім родзе інструменты. Спадар Мар'ян не прадае творы ўласных рук, баіцца, што не зможа іх паўтарыць. Але ў якасці падарункаў яны ўжо апынуліся ў прыватных калекцыях у ЗША, Канадзе, Францыі, Аўстрыі і Германіі.

Убачыць каштоўныя вырабы можна таксама і ва ўласным музеі майстра – штогод там ладзіцца каля паўсотні экскурсій. Плён творчасці аўтара ўнесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

### ШУКАЮЧЫ НЕ ІНСТРУМЕНТ, АЛЕ ГУК

Імкненне спадара Мар'яна майстраваць інструменты ўзнікла з усведамлення, што кожная мелодыя ўнікальная і патрабуе адмысловых прылад, каб дакладна яе выразіць. ***"Напрыклад, скрыпка дае толькі адзін гук, а з яе дапамогай людзі намагаюцца перадаць творы шматлікіх кампазітараў. Я хачу, каб мае вырабы ўлічвалі ўсе гукавыя асаблівасці. Перш за ўсё, шукаю тэмбр, танальнасць, а пасля майструю",*** – дадае музыка. У гэтым спадару Мар'яну дапамагае здольнасць на слых запамінаць пачутую мелодыю і ўзнаўляць яе без нот.

Цікавыя гучанні спадар Мар'ян часта шукае ў прыродзе. У яе ж пазычае і неабходныя матэрыялы, каб змайстраваць адмысловы інструмент, калі пачуе тое, што яго прываблівае. ***"Доўга не мог падабраць, чым жа паўтарыць тупат коней,*** – распавядае музыка. – ***І нечакана натрапіў на шкарлупіну какосавага арэха".***

Майстар вешае на адну руку званочкі, затым бярэ 2 абскблюдаваныя палоўкі какоса... і раптам паўстае гукавая ілюзія, нібы на цэбе імчыць запрэжка. Пасля адна за адной у руках майстра змяняюцца дудкі, лыжкі, трашчоткі, кляшчоткі – і ў пакоі раздаецца вуханне савы, глухі рык зубра, кваканне лягушак і птушыны спеў.

***"Аднойчы зайграў на паршнёўцы, каб правесці жураўліны клін. Дык адна птушка нават спусцілася ўніз, каб паглядзець, хто яе кліча",*** – распавядае з усмешкай спадар Мар'ян.





Імя Мар'яна Скрамблевіча занесена ў энцыклапедыю "Беларускі фальклор"



### "ВЫЛЕПІЎШЫ" З ДРАЎНІНЫ

Скрамблевіцкія інструменты зроблены пераважна з дрэва. Майстар любіць гэты матэрыял за яго "жывасць". У творчасці выкарыстоўвае каля 20-ці мясцовых парод, а часам і экзотыку. Даводзілася працаваць і з сібірскім кедрам, і з інданэзійскім бамбукам.

***"Дрэва трэба «пачуць». Здараецца, я падоўгу блукаю ў лесе, каб знайсці адпаведную галінку. Пасля магу на некалькі гадоў яе пакінуць, каб драўніна высахла да патрэбнага стану. Важна і тое, у якую пару яна была зрэзана. Калі вясной, то будзе напоўнена сокамі і інструмент можа загучаць плаксіва. А калі ўвосень, гучанне будзе высокае і тонкае",*** – дзеліцца некаторымі сакрэтамі спадар Мар'ян.

Асаблівым чынам майстар ганарыцца акарынамі – глінанымі свістковымі флейтамі. Музыка праявіў вынаходлівасць і першым у Еўропе пачаў рабіць іх з дрэва. Арыгінальныя акарыны звычайна майструюцца ў выглядзе гусянят (так перакладаецца гэтае дзівоснае слова з італьянскай мовы), а спадар Мар'ян надае ім кштальт рыб. На пытанне "чаму?" пацiскае плячыма і адмахваецца: "А я ведаю...". Можа, тут пра сваё заступніцтва нагадвае св. Цэцылія, апякунка музыкаў? Натхняе майстра ўводзіць у незвычайнае аўтарскае мастацтва хрысціянскую сімволіку (па-грэчаску "рыба" – "іхціс", што з'яўляецца абрэвіятурай грэчаскай фразы "Езус Хрыстус Божы Сын Збаўца")...

### МЕЛОДЫЯ ЗВЫШ

Спадар Мар'ян прызнаецца, што музыка для яго падобна малітве. Яна павінна нараджацца ў глыбіні душы і дасягаць іншых сэрцаў, выхоўваць. Для майстра мелодыі як своеасаблівая размова з Богам. ***"Калі даводзіцца наладжваць інструменты, я заўсёды выбіраю які-небудзь касцёльны матыў. І ведаеце, гучанне мяне адразу задавальняе. А пасля зачароўвае і маіх слухачоў",*** – разважае музыка.

Мар'ян Скрамблевіч аддаў захапленню ўсяго сябе, яшчэ пачынаючы з тых часоў, калі хадзіў у адных кірзавых ботах і фуфайцы, каб толькі адкласці грошы на пакупку баяна і радаваць людзей сваёй творчасцю. Ён з'яўляецца выдатным прыкладам чалавека, які не занядбаў, але нястомна развіваў таленты, атрыманыя ад Бога, і пасля быў узнагароджаны шматлікімі бласлаўленнямі.

*Анжаліна Марцішэўская*




### Планы епіскапата

***У Мінску адбылося 75-ае пленарнае пасяджэнне Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.***

*Іерархі абмеркавалі і прынялі тэму наступнага пастырскага года ў Касцёле ў Беларусі, які будзе прысвечаны св. Яну Паўлу II і пройдзе пад дэвізам: "Адчыніце дзверы Хрысту". Між іншым быў зацверджаны пераклад на беларускую мову "Літургіі гадзін. IV том. Звычайны перыяд XVIII – XXXIV тыдзень", зроблены Секцыяй па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла пры ККББ. Епіскапат краіны таксама прыняў рашэнне аб правядзенні ўсебеларускага Дня кансэкраванага жыцця, які адбудзецца 10 лютага 2020 года ў Гродне.*

Aleteia

### "Езус ратуе!"

***Такія словы на англійскай мове змясціў на футболцы мужчына, які стартаваў у гонцы.***

*25-гадовы Тайлер Мун прымаў удзел у 16-кіламетровым забегу ў Сэнт-Поле (ЗША). На 3-ім кіламетры ў яго здарыўся сардэчны прыступ. Бягун упаў, разбіў твар і косці. Як высветлілася пазней, сэрца на 10 секунд перастала пампаваць кроў. Пасля аператыўнай рэанімацыі мужчыну даставілі ў бальніцу.*

*Праз некаторы час бягун пракаментаваў здарэнне наступным чынам: "Я змясціў на футболцы лозунг, у якім сказана «Езус ратуе!». Гэта вельмі падыходзіць да таго, што адбылося са мной далей. Я шчаслівы, што Бог паказаў сваю веліч і моц там, дзе сабралася столькі людзей".*




### Вясёлка – хрысціянскі сімвал?

***Раённая пракуратура Чанстахова-Поўнач (Польшча) пастанавіла аднавіць працэс па справе выстаўлення абраза Маці Божай з вясёлкавым арэолам падчас Маршу роўнасці.***

*Раней тая ж пракуратура спыніла справу, не бачачы ў ёй ніякіх прыкмет забароненага дзеяння. У пастанаўленні пракуратура сцвердзіла, што вясёлка з'яўляецца хрысціянскім сімвалам, таму нельга прызнаць, што яе дадаванне да абраза Маці Божай Чанстахоўскай абражае рэлігійныя пачуцці католікаў. Аднак цяпер пракуратура сцвердзіла, што ў гэтай справе неабходна прызначыць эксперта па пытаннях іканаграфіі.*




### Якія прыкметы Касцёла сведчаць пра яго сапраўднасць?

*Хрыстос заснаваў толькі адну Царкву і горача маліўся аб еднасці сярод хрысціян. На вялікі жаль, у гісторыі хрысціянства адбыліся шматлікія падзелы, выклікаючы чалавечай недасканаласцю. Тым не менш, ёсць пэўныя прыкметы, па якіх можна адрозніць сапраўдную Хрыстову Царкву.*

***1. Незнішчальнасць.*** *Царква павінна існаваць ад пачатку свайго заснавання да сучаснага дня. Яе быццё не можа абмяжоўвацца перыядам часу. Касцёл мае гэтую прыкмету. Нягледзячы на выпрабаванні і пераслед, ён існуе да сёння.*

***2. Бачнасць.*** *Хрыстос заснаваў сваю Царкву бачнай. Як мы ведаем, Касцёл мае іерархію, публічнае вучэнне, арганізаваны публічны культ, а таксама развітае сацыяльнае служэнне.*

***3. Еднасць (кіраўніцтва, вера, культ).*** *Езус хацеў для сваёй Царквы выключнай еднасці. Найвышэйшая ўлада ў Касцёле належыць Папу, які ў супрацоўніцтве з біскупамі выконвае сваю місію. Адна і тая ж вера вызнаецца на розных мовах у каталіцкіх святынях па ўсім свеце. Існуюць розныя формы абрадаў, але кожны католік незалежна ад сваёй абрадавай прыналежнасці можа прымаць сакраманты і публічна маліцца ў любой каталіцкай святыні.*

***4. Паўсюднасць.*** *Езус заклікаў сваіх вучняў абвяшчаць Евангелле ўсім народам (Мц 28, 19). Паўсюднасць Касцёла праяўляецца ў тым, што да яго належаць як людзі розных сацыяльных пластоў аднаго грамадства, так і людзі розных народаў і краін. Не існуе ніякіх абмежаванняў, каб стаць католікам.*

***5. Апостальскасць.*** *Хрыстовая Царква збудавана на падмурку апосталаў. Хрыстос асабіста вучыў і фарміраваў іх, а яны ў сваю чаргу перадалі апостальскую ўладу сваім наступнікам. Касцёл мае апостальскую пераемнасць ад пачатку свайго заснавання.*

***6. Святасць.*** *З Боскасці Езуса Хрыста вернікі чэрпаюць сваю святасць. Хоць ведаем прыклады здрады (напрыклад, Юда Іскарыёт), у Хрыстовым Касцёле безліч прыкладаў таго, як хрысціяне застаюцца вернымі свайму пакліканню да святасці. Святасць Касцёла заўважаецца ў яго маральнай дактрыне, якая ніколі не вучыць злу, але заклікае да дабра. Пра святасць Касцёла сведчаць таксама шматлікія цуды, якімі Бог пацвярджае звышнатуральнасць сваёй прысутнасці сярод вернікаў.*

***7. Беспамылковасць.*** *На працягу стагоддзяў у пытаннях веры Касцёл ніколі не змяняе свайго вучэння. Калі б у вучэннях Папы і каталіцкіх біскупаў была нейкая сур'ёзная памылка, Касцёл не змог бы прайсці праз стагоддзі ў еднасці. Нягледзячы на памылковасць некаторых вучэнняў хрысціян, што адышлі ад еднасці з Касцёлам, ён, як Хрыстовае Цела, застаецца непадзельным і беспамылковым.*

*Кс. Віктар Місевіч*
***Паводле catholicnews.by***



*З Богам праз штодзённасць*

# Малітва на парозе дня

Позняй восенню, калі ночы робяцца даўжэйшымі, большасць з нас адкрывае вочы задоўга да світання, у змроку. Занятыя сваімі справамі, не заўважаем, як пачынае днець – раніца мінае хутка. Але менавіта ў пачатку дня, як і перад любым важным заняткам, варта стаць перад Богам, даручаючы Яму той шлях, які маем прайсці.

Ранішні час, калі навокал яшчэ цёмна, калі адчуваеш сябе недаспаным, зрушаным з цёплага ўтульнага месца, – добры час для асабістай малітвы, роўна як і жыццёвы крызіс, змрок у душы, смутак, невядомасць. Бог прысутны побач у кожную пару, нават калі не бачым ні промня святла ў прамым і пераносным значэнні.

У малітоўніку, несумненна, знойдзем тэксты для ранішняй малітвы. Гэта таксама знаёмыя з дзяцінства пацеры або псалмы і гімны, якія прапануе на дадзены час Літургія гадзін. Вядома, можна карыстацца і сваімі словамі. Незалежна ад таго, спадзяёмся мы памаліцца даўжэй раніцай або на працягу дня ці прадчуваем, што не знойдзецца больш часу, ранішні зварот сэрца і розуму да Бога будзе ўплываць на ўвесь дзень, на парозе якога стаім. Гэта той добры навык, які варта падтрымліваць і развіваць.

Па сутнасці, малітвай мы выяўляем добрую інтэнцыю, а менавіта сваё прагненне ўсё рабіць у згодзе з Божай воляй, каб думкі, словы і ўчынкі былі дзеля хвалы Пана і дабра нашай душы. Выказаны ў пачатку дня, намер застаецца актуальным увесь час, хоць можам не ўспамінаць аб ім сярод дзённых спраў. Адначасова гэта і спадзяванне на Божую ласку, без якой немагчыма нічога зрабіць, і выраз нашай любові да Бога.

Насамрэч ранішняя няздатнасць на ўзнёслыя думкі, слабасць, якую часам адчуваем так востра, парадаксальным чынам могуць дапамагчы нашым адносінам з Богам – дапамагчы прыйсці да Яго такімі, якія ёсць, і ўсвядоміць, што атрымліваем ад Яго ўсё, што часта лічым належным і сваім. Акрамя гэтага асабістага вымярэння адносін важна памятаць і пра больш шырокае, якое таксама ўласціва кожнаму з нас. Маю на ўвазе прыналежнасць да супольнасці Паўсюднага Касцёла. Здаецца, вядомая рэч, але на якім узроўні мы знаходзімся: толькі ведаем пра гэта ці адчуваем сябе часткай Касцёла? Як пісаў амерыканскі паэт і манах Томас Мертан, "ніхто не з'яўляецца самотны выспай".

Узнікае пытанне: прычым тут ранішняя малітва? Патлумачу на прыкладзе. Ёсць добрая магчымасць выказаць Богу свой намер пражыць дзень так, каб у выніку ўсе падзеі былі малітвай у шырокім сэнсе гэтага слова. Ранішняе прынашэнне (ахвяраванне), зробленае ў інтэнцыях Святога Айца, спалучае індывідуальнае і супольнаснае вымярэнні.

Тэкст першага прынашэння напісаў айцец езуіт Франсуа Ксаверый Гатрэле ў 1844 годзе для Апостальства малітвы. Прычынай заснавання Апостальства было гарачае жаданне маладых французскіх манахаў, падапечных а. Гатрэле, хутчэй прысвяціць сябе місіянерству. Ён даручыў ахвотным быць "апосталамі малітвы", ахвяруючы ўсё ў сваім жыцці Найсвяцейшаму Сэрцу Езуса дзеля таго, што Пан сам пажадае здзейсняць у справе пашырэння Божага Валадарства і збаўлення душ. Шматлікія вернікі неўзабаве сталі далучацца да Апостальства, і ў 1880 годзе папа Леў XIII пачаў кожны месяц даручаць гэтай малітоўнай супольнасці надзённыя інтэнцыі Касцёла. Такая традыцыя працягваецца да сучасных дзён.

У цяперашні час Апостальства называецца Сусветная сетка малітвы Папы і аб'ядноўвае мільёны людзей на ўсім свеце. Тэксты штодзённай малітвы са Святым Айцом маюць розныя варыяцыі, але можна заставацца ўвесь час з адной выбранай формай, прыведзенай ніжэй.

Агульна кажучы, мы аддаём сябе і ўсё, што прынясе надыходзячы дзень, у ахвяру, просячы Нябеснага Айца далучыць наша прынашэнне да ахвяры Яго Сына, якую Ён прыносіць на алтарах па ўсім свеце; і просім Святога Духа адкрыць нашы сэрцы на патрэбы чалавецтва і Касцёла. Такое самаахвяраванне мае выразны накірунак, які яму надае інтэнцыя Святога Айца на кожны месяц.

Можна параўнаць гэта таксама з ключом, які адкрывае нам спосаб да міласэрнага служэння. Па праўдзе, цярпенні іншых людзей глыбока кранаюць толькі тады, калі мы з'яднаны з Хрыстом. Чым мацнейшая сувязь з Ім, тым больш наша сэрца здольнае да спачування. Калі прымаем Яго дары, Яго любоў і спагаду, калі дзелім з Ім свае перажыванні, вучымся прабачаць, адкрываем Яму свой боль, спадзяёмся ў трывогах, прыносім усё, чым поўніца ўнутранае і знешняе чалавечае жыццё, то наша сувязь з Ім трывае і развіваецца. У тварах церпячых людзей – блізкіх і далёкіх – Ён паказвае сваё Аблічча. Праз малітву і ахвяру мы можам адказаць на Яго любоў.

#### *Варыянты штодзённага прынашэння*

Першапачатковая форма:
*О Езу, праз Беззаганнае Сэрца Марыі ахвярую Табе малітвы, справы, радасці і цярпенні сённяшняга дня ў еднасці з Найсвяцейшай Ахвярай св. Імшы па ўсім свеце. Я ахвярую іх ва ўсіх намерах Найсвяцейшага Твайго Сэрца: дзеля збаўлення душ, перапрашэння за грэх і з'яднання ўсіх хрысціян. Ахвярую іх у інтэнцыях нашых біскупаў і ўсяго Апостальства малітвы, асабліва ў інтэнцыях Святога Айца на гэты месяц. Амэн.*

Пазнейшы варыянт:
*Божа, наш Ойча, ахвярую Табе надыходзячы дзень: усе малітвы, думкі, словы, учынкі і цярпенні. Ахвярую Табе іх у еднасці з Тваім Сынам, Езусам Хрыстом, які ў Эўхарыстыі няспынна складае сябе ў ахвяру Табе дзеля збаўлення свету. Няхай Святы Дух, які вёў Езуса, будзе сёння маім кіраўніком і сілай, каб я сведчыў аб Тваёй любові. Разам з Марыяй, Маці Езуса і Касцёла, прашу Цябе асабліва ў тых інтэнцыях, якія Святы Айцец даручае ўсім вернікам на гэты месяц. Амэн.*

Апошнім часам Сусветная сетка малітвы штомесяц прапануе крыху іншы тэкст ранішняга прынашэння. Напрыклад, на сёлетні лістапад:
*Дзякую Табе, Ойча, за чарговы дзень і магчымасць жыць верай сярод іншых людзей. Навучы мяне заўважаць Тваю прысутнасць. Дай ласку адвярнуцца ад граху і напоўніцца надзеяй, прыносячы Тваю любоў і супакой усім, каго сустрэну. Ахвярую Табе гэты дзень у інтэнцыі, якую папа Францішак даручыў Сусветнай сетцы малітвы: "Каб на Блізкім Усходзе, дзе разам жывуць розныя рэлігійныя супольнасці, запанаваў дух дыялогу і прымірэння". Амэн.*

*Тэрэса Клімовіч*




***Віталій Гурэц,** алюмн IV курса Гродзенскай ВДС*
*Паходзіць з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

# Дарога да Хрыста не можа быць лёгкай!

**Я лічу, што ўсе цяжкасці і цярпенні семінарыст павінен перажываць з Езусам. З любоўю прымаць свой крыж і адважна крочыць за голасам Збаўцы.**

**ПРА ПАКЛІКАННЕ**

Асабіста для мяне, пакліканне з'яўляецца бязмежнай любоўю міласэрнага Бога, аказанай мне як маладому хлопцу, які шукаў свой жыццёвы шлях. "Не вы Мяне выбралі, але Я выбраў вас і прызначыў, каб вы ішлі і прыносілі плён, і каб плён ваш трываў" (Ян 15, 16). Я распазнаваў сваё пакліканне падчас рэкалекцый, што рэгулярна праводзіць Гродзенская вышэйшая духоўная семінарыя, праз размовы са святарамі, манаскімі сёстрамі і свецкімі асобамі, якіх Божы Провід паставіў на дарозе майго жыцця і якія паказалі жывую і глыбокую веру. Я шмат разважаў над гэтым на малітве. Жаданне пераймаць Хрыста разгаралася ўва мне з большай сілай дзякуючы цудоўнаму прыкладу пробашча маёй роднай парафіі кс. прэлата Антонія Філіпчыка.

Вельмі ўдзячны за аказаную падтрымку на выбраным шляху бацькам, блізкім, парафіі. Няхай Бог усім вам аддзячыць!

**ПРА ЖЫЦЦЁ Ў СЕМІНАРЫІ**

Я шчаслівы, што ў семінарыі, магу глыбей пазнаць Пана Бога, вучэнне Касцёла, проста ўбіраць у сябе пануючую ў ёй атмасферу. Самае важнае – каб я не змарнаваў гэты час і ўмеў плённа выкарыстоўваць здабытыя веды і досвед.

Прабыванне ў семінарыі вучыць мяне таксама знаходзіць кампраміс. Тут сабраліся розныя маладыя людзі, з рознымі звычкамі. Сумесныя заняткі аб'ядноўваюць нас, выхоўваюць цярплівасць, разуменне, згоду.

**ПРА СВЯТАРСТВА**

Розныя пакліканневыя акцыі паказваюць, што людзям патрэбны добрыя і святыя святары. Сёння свет мае вострую неабходнасць у Божых і адданых сваёй паслузе душпастырах. Мяне вельмі цешыць усведамленне, што стану тым, хто неабходны Касцёлу, неабходны вернікам.

**ПРА МАЛІТВУ**

Перад кожным важным дзеяннем у сваім жыцці альбо проста перад выхадам на шпацыр я заходжу ў капліцу і прамаўляю такую малітву: "Бог Айцец, Бог Сын, Бог Святы Дух, запрашаю Цябе, ідзі разам са мной". Пасля вяртання ці завяршэння пэўнай справы адгаворваю "Хвала Айцу". Лічу, што жыццё неабходна з даверам ахвяраваць Святой Тройцы.

Падчас кожнай ранішняй малітвы я таксама прагаворваю пра сябе: "О Езу ціхі і пакорны сэрцам, учыні маё сэрца да Твайго падобным". Пакора! Вучуся станавіцца перад сабой у праўдзе, не баяцца глядзець на сябе збоку і заўважаць нейкія недахопы. Заўсёды ёсць над чым папрацаваць.

**ДУМАЮ, ШТО...**

Сёння маладыя людзі спрабуюць розныя рэчы, эксперыментуюць і лічаць, што адважныя. Аднак яны баяцца рызыкнуць у духоўным жыцці. Таму гэтая адвага толькі ўяўная...

Сябра! Калі Табе спадарожнічаюць няўпэўненасць і сумненні, але разам з тым чуеш у сэрцы голас, адчуваеш унутраны кліч, заахвочваю Цябе прыняць адважнае, мужнае рашэнне прыйсці ў семінарыю. Гэта месца, дзе можна ўбачыць шлях, які для нас падрыхтаваў Пан.

НАВІНЫ



## УРАЧЫСТАСЦЬ УСІХ СВЯТЫХ І ЗАДУШКІ

Традыцыйна ў першыя дні лістапада вернікі наведваюць могілкі, каб памаліцца за сваіх блізкіх, якія ўжо адышлі ў вечнасць. На працягу актавы ўрачыстасці Усіх Святых маюць магчымасць атрымаць поўны адпуст, што з'яўляецца адным з самых каштоўных дароў, якія жывы чалавек можа ахвяраваць за памерлых.

На могілках адбыліся св. Імшы, у якіх прыняла ўдзел вялікая колькасць вернікаў. Людзі прасілі ў Бога ласкі вечнага шчасця для сваіх родных. Падчас цэлебрацыі Эўхарыстыі за памерлых на францішканскіх могілках у Гродне кс. бп Аляксандр Кашкевіч асвяціў аднаўленую капліцу і званіцу.

Напярэдадні гэтых асаблівых дзён у многіх парафіях для дзяцей і моладзі былі арганізаваны Балі ўсіх святых. Падобныя мерапрыемствы з'яўляюцца выразам традыцыі і веры, звязанай з захапленнем святымі і наданнем ім належнай павагі і пашаны. Гэта таксама адказ Касцёла на амерыканскі Хэлоўін, які набывае ўсё большую папулярнасць у сучаснай культуры.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



У гродзенскай семінарыі адзначылі свята св. Юды Тадэвуша, які з'яўляецца апекуном духоўна-навучальнай установы. Падзеі папярэднічала Навэнна да святога – 9 дзён алюмны ўзгадвалі шлях апостала і прасілі аб яго заступніцтве перад Богам.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТАЦЫІ



У дзень літургічнага ўспаміну св. Яна Паўла ІІ гродзенскія біскупы ўзначалілі адпустовыя ўрачыстасці за мяжой. Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч цэлебраваў Эўхарыстыю ў гонар вялікага папы ў парафіі ва Уоттане (Англія). Дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі стаў ганаровым госцем парафіяльнага адпусту ў Элку (Польшча).

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



У санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі ў Капцёўцы адбылася сустрэча членаў Колаў Жывога Ружанца Гродзенскай дыяцэзіі. На яе прыбылі больш за 350 чалавек. Прысутныя разам маліліся, а таксама мелі магчымасць выслухаць тэматычную канферэнцыю. Кульмінацыяй сустрэчы стала св. Імша, якую ўзначаліў кс. бп Аляксандр Кашкевіч.



### АДНЫМ РАДКОМ

• 105-годдзе заснавання Шанштацкага руху адзначылі ў гродзенскім касцёле Маці Божай Анёльскай (францысканцкі). • Іўеўскі філіял "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі адзначыў 20-годдзе свайго існавання. • Малітоўная сустрэча дзяўчат і жанчын, арганізаваная сёстрамі змёртвыхпаўстанкамі, адбылася ў Гудагаі (дэканат Астравец). • Конкурс малюнкаў, прысвечаны св. Яну Паўлу ІІ, прайшоў у гродзенскай парафіі Святога Духа. • Рэкалекцыі для мужчын адбыліся ў навагрудскім Назарэце. • Палатын Руслан Пецкелюн з Воранава прыняў дыяканскае пасвячэнне ў Алтажаве (Польшча). • Агульнабеларуская фармацыйная сустрэча салезіянскіх аніматараў прайшла ў Смаргоні. • Кс. бп Юзаф Станеўскі прыняў удзел у святкаванні 25-годдзя адкрыцця Дома фонду св. Яна Паўла ІІ у Любліне (Польшча). • Місійны ружанец для моладзі арганізавалі ў гродзенскім касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі). • Сустрэча салезіян супрацоўнікаў Беларусі прайшла ў Гудагаі. • Веласіпедысты-аматары клуба "Ровар" з Ашмянаў наведалі санктуарый у Барунах (дэканат Ашмяны). • Мінскі гадзіннікавы завод "Луч" выпусціў лімітаваную калекцыю, якая паўтарае вежавы цыферблат гродзенскай катэдры.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**10 лістапада 1940 г.** – кс. Казімір Лабан, *проб. Цудзенішкі;*
**13 лістапада 1994 г.** – кс. Яцэк Якубчык SAC, *душп. Беняконі;*
**16 лістапада 1953 г.** – кс. Альфонс Чыжэўскі SJ, *душп. Бердаўка;*
**16 лістапада 1999 г.** – кс. Мацей Мацееўскі CR, *проб. Крамяніца;*
**17 лістапада 1990 г.** – кс. Эдуард Жураўскі, *проб. Кемелішкі;*
**18 лістапада 1975 г.** – кс. Мечыслаў Радзішэўскі, *проб. Новы Двор;*
**19 лістапада 1967 г.** – кс. Уладзіслаў Матуліс, *проб. Солы;*
**24 лістапада 1966 г.** – кс. д-р Севярын Яноўскі, *проб. Вавёрка.*

АНОНСЫ

## ПАСВЯЧЭННІ ПРЭЗБІТЭРАТУ І ДЫЯКАНАТУ АДБУДУЦЦА Ў ГРОДНЕ

**16 лістапада біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч удзеліць пасвячэнні дыякану і 5-ці алюмнам Вышэйшай духоўнай семінарыі.**

Прэзбітэрскае пасвячэнне атрымае дыякан Віталій Валюк, дыяканскае пасвячэнне – клерыкі Яўген Амасёнак, Андрэй Струкель, Павел Шэмет, Тамаш Мікалайчык, Дзмітрый Малец.

*Урачыстасць адбудзецца ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя. Пачатак св. Імшы ў 12.00.*

## ІМША ДЛЯ ПІЛІГРЫМАЎ З БЕЛАРУСІ АДБУДЗЕЦЦА Ў ВІЛЬНЮСЕ

**Эўхарыстыя на беларускай мове ў капліцы Маці Божай Міласэрнасці будзе цэлебравана 16 лістапада ў 15.00.**

У гэты дзень адзначаецца ўрачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці. З гэтай нагоды ў літоўскі санктуарый прыбудуць пілігрымы з розных краін, каб памаліцца ля цудатворнага абраза.

## СЯМЕЙНЫЯ РЭКАЛЕКЦЫІ "СУЖЭНСКІЯ СУСТРЭЧЫ" АДБУДУЦЦА Ў РОСІ

**Духоўныя практыкаванні пройдуць 22–24 лістапада ў рэкалекцыйным доме "Голас Айца" (вул. Чырвонаармейская, 12).**

У рэкалекцыях могуць прыняць удзел сужэнцы рознага ўзросту, з розным досведам сямейнага жыцця, узроўнем ведаў, ступенню набожнасці і веравызнаннем, пары, якія толькі распісаліся ў ЗАГСе, а таксама сужэнствы ў паўторным шлюбе.

Начлег і пасілак забяспечваюць арганізатары. Умовы: прысутнасць на сустрэчах абодвух сужэнцаў (без дзяцей), удзел ва ўсёй праграме.

*Неабходны папярэдні запіс па тэлефоне: (8 029) 652-11-44.*

## РЭКАЛЕКЦЫІ ЦВЯРОЗАСЦІ ПРОЙДУЦЬ У ГРОДНЕ

**Духоўныя практыкаванні запланаваны на 29 лістапада – 1 снежня. Адбудуцца ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі).**

Рэкалекцыі арганізуе душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі. Да ўдзелу запрашаюцца ўсе, каго хвалюе праблема алкагалізму і наркаманіі ў Беларусі.

*Запісацца і атрымаць больш інфармацыі можна па тэлефоне: (8 033) 325-57-64 – Юрый Гапонік.*

## ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ХОР "CANTATE DOMINO" АДЗНАЧЫЦЬ СВАЁ 20-ГОДДЗЕ

**З нагоды юбілею 22 лістапада ў 19.00 у гродзенскай катэдры будзе адпраўлена св. Імша.**

Пасля адбудзецца канцэрт хору пад кіраўніцтвам Генрыха Давідовіча, нязменнага кіраўніка і дырыжора "Cantate Domino".

*Сардэчна запрашаем!*

## У ГРОДНЕ ПАЧЫНАЮЦЦА ФАРМАЦЫЙНЫЯ СУСТРЭЧЫ ШКАПЛЕРНАГА БРАЦТВА

**Яны будуць праходзіць у парафіях Найсвяцейшага Адкупіцеля (Дзевятоўка) і Маці Божай Вастрабрамскай (Аўгустовак) 30 лістапада, 4 студзеня, 1 лютага, 7 сакавіка, 4 красавіка, 2 мая і 6 чэрвеня.**

Айцы кармэліты, якія праводзяць гэтыя сустрэчы, запрашаюць усіх, хто носіць святы шкаплер Марыі з гары Кармэль, а таксама ўсіх, хто цікавіцца кармэліцкай духоўнасцю і прагне наследаваць цноты Маці Божай у сваім штодзённым жыцці. Заахвочваюцца і жадаючы атрымаць шкаплер з рук айцоў кармэлітаў, што можна зрабіць падчас кожнай сустрэчы.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 044) 589-68-98 – а. Аляксандр Стока OCD.*

## Каляндар падзей

***11 лістапада***
*Успамін св. Марціна Турскага, біскупа.*

***12 лістапада***
*Успамін св. Язафата, біскупа і мучаніка.*

***16 лістапада***
*Урачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці – галоўнай заступніцы дыяцэзіі.*

***17 лістапада***
*Сусветны дзень бедных. Молімся за бедных, бяздомных і церпячых, каб узбагацілі Касцёл ахвярай свайго цярпення, а самі ніколі не былі пазбаўлены сэрца і матэрыяльнай дапамогі.*

***20 лістапада***
*Успамін св. Рафала Каліноўскага, прэзбітэра і манаха.*

***21 лістапада***
*Ахвяраванне Найсвяцейшай Панны Марыі.*

***22 лістапада***
*Успамін св. Цэцыліі, заступніцы арганістаў, касцёльных хораў. Молімся ў інтэнцыі развіцця касцёльнай музыкі і спеву.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Лістапад***

*Аб памнажэнні сярод дыяцэзіян веры ў вечнае жыццё і боязі Божай у захаванні запаведзей.*

*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

## Дзіцячы куточак

# Вянок чысціні св. Цэцыліі

***Прывітанне, Маленькі Чытач! Ці любіш Ты спяваць? А ці ведаеш, што апякункай касцёльнай музыкі і ўсіх музыкантаў з'яўляецца св. Цэцылія? На абразах яе часта паказваюць як мучаніцу з мячом і ружай побач з клавішным інструментам або скрыпкай. Сёння я хачу бліжэй пазнаёміць Цябе з гэтай святой.***

*Цэцылія нарадзілася ў высакароднай рымскай сям'і. Яшчэ ў юнацтве яна спасцігла хрысціянскую духоўную мудрасць, таму сэнсам жыцця дзяўчыны стала служэнне бедным і жаданне застацца ў чысціні і цнатлівасці да смерці. Мала хто ведаў, што пад пышнымі ўборамі яна носіць валасяніцу.*

*Прыйшоў час і бацькі вырашылі выдаць дачку замуж за арыстакрата Валяр'яна, які быў язычнікам. Дзяўчына не стала пярэчыць бацькам і толькі малілася аб Божай дапамозе. Яна змагла пераканаць жаніха не парушаць дадзенае Богу абяцанне жыць у цнатлівасці. Валяр'ян пагадзіўся пры ўмове, што яму будзе дазволена ўбачыць анёла, які, як ён ведаў, апекуецца Цэцыліяй. Па легендзе, анёл спусціўся і ўсклаў на галовы сужэнцаў вянкі з руж.*

*Аднойчы Цэцылія пераканала жаніха пайсці з ёй да біскупа Урбана, які хаваўся ад ганенняў у пячоры. Навучанні мудрага старца праніклі ў душу Валяр'яна, і ён паверыў у Хрыста. Разам з братам Ціўурціем, якога Валяр'ян таксама навярнуў у хрысціянства, яны раздалі частку ўласнасці бедным. Даглядалі хворых, хавалі хрысціян, пераследуемых ганіцелямі.*

*Прэфект Турцый Алмахій, даведаўшыся пра гэта, загадаў схапіць братоў і прывесці на суд. Запатрабаваў, каб яны адракліся ад Хрыста і прынеслі ахвяры паганскім багам. Браты адмовіліся. Тады іх сталі бязлітасна збіваць пугамі. Валяр'ян пад катаваннямі пераконваў хрысціян не баяцца пакут, але цвёрда стаяць за Хрыста. Жадаючы пазбегнуць уплыву прапаведніка на народ, кіраўнік суда загадаў вывесці братоў за межы горада і там пакараць смерцю. На наступны дзень іх абезгаловілі.*

*Кіраўнік суда хацеў завалодаць маёнткам пакараных, але даведаўся, што Цэцылія ўжо раздала ўсю маёмасць і сваім навучаннем звярнула ў хрысціянства больш за 400 чалавек. Загадаў пакараць смерцю і яе. Тры дні Цэцылію марылі жарам і дымам у напаленай лазні, але з Божай ласкай праведніца была захавана. Тады яе вырашылі абезгаловіць. Кат ударыў жанчыну мячом, але толькі параніў. Цэцылія пакутавала яшчэ 3 дні ў поўнай свядомасці, умацоўваючы ў веры людзей, якія гэта бачылі. Памерла з малітвай на вуснах 22 лістапада 230 года.*

*Хрысціяне пахавалі цела мучаніцы ў рымскіх катакомбах. У IX стагоддзі папа Пасхалій I урачыста перанёс яе мошчы ў тытулярную базіліку ў гонар св. Цэцыліі, а галаву загадаў захоўваць у манастыры Санці-Куатра-Каранаці ў Рыме (Італія). Але калі ў 1599 годзе труну адкрылі, то галава ляжала разам з целам. Прысутныя засведчылі нятленнасць парэшткаў мучаніцы.*

*З XVI стагоддзя св. Цэцылію называюць заступніцай духоўнай музыкі. Паводле падання, мучаніца маліла Бога захаваць яе душу і цела чыстымі. Калі Цэцылію вялі да алтара пад гукі музычных інструментаў "Cantantibus Organis", яна спявала духоўныя песні, а вакол практыкаваліся ў спевах язычнікі. Справа ў тым, што выраз "cantantibus organis" у перакладзе з лацінскай мовы азначае ігру ўсіх музычных інструментаў. Сёння святую адлюстроўваюць з рознымі з іх, але часцей за ўсё з клавішнымі (арган, клавесін, фісгармонія, чэлеста) або скрыпкай. У дзень успаміну св. Цэцыліі, 22 лістапада, у многіх парафіях праводзяцца музычныя фестывалі ў гонар святой, якія называюцца Цэцыліяды.*

***Дарагі Маленькі Чытач! Спеў заўсёды прыносіць радасць у сэрца. Таму жадаю Табе і сабе таксама нястомна цешыцца з таго, што належым да Хрыста, і праслаўляць Яго сваім спевам.***

**Заданне:** ***вывучы кароценькую песню да Бога і выконвай яе кожны дзень, каб Тваё сэрца заўсёды радавалася.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

### Паважанаму Айцу Вітольду Жэльветра

з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаю сардэчныя віншаванні.

Айцец Вітольд –
ён дапамог мне
Калісьці Бога палюбіць.
Яго казанні ўсе я помню,
Іх нельга проста так забыць.
Калі на свята да касцёла
Матуля клікала мяне,
Айцец Вітольд быў,
як анёлак,
Ва ўсім пярэчыў сатане.
І хоць жыла тады з грахамі,
Але, пачуўшы святара,
Нібыта думкі мае самі
Пыталі:
"Дзе знайсці Айца?".
Айцец Вітольд
у слове кожным
Пра Бога шчыра разважаў,
І мне здавалася, што, можа,
Бог сам нам праз яго казаў...
Ён так хацеў, каб усе пазналі,
Якое шчасце з Богам жыць.
Каб Пана ў сэрцы ўсе трымалі,
Маглі Ім моцна даражыць.
Я помню ўсё, што Вы казалі.
Адзін з найлепшых
Вы святар!
Вы людзям грэшным
памагалі
Знайсці святы Боскі алтар.

*З павагай Раіса Варонік*

### Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень жыцця і святарскай паслугі будзе шчаслівы і благаслаўлёны, Бог адорвае здароўем і заўсёды падтрымлівае ў цяжкія хвіліны. Прагнем падзякаваць за ўсе гады паслугі ў нашай парафіі, а таксама за адраджэнне святыні. Плён Вашай працы будзе для нас памятным знакам аб Вашай паслузе. Жадаем нястомных сіл на доўгія гады. Няхай Вас адорваюць сваёй апекай Бог Айцец, Святы Дух, Божы Сын і Яго Найсвяцейшая Маці.

*Ружанцовыя колы, Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне з Радуні*

### Паважанаму Ксяндзу Каноніку Леанарду Станкоўскаму

з нагоды Імянін складаем найлепшыя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае Вас шчодрымі ласкамі, а святы Заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам. Жадаем здароўя, сілы, стойкасці, непахіснай веры і надзеі.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Солы*

### Паважанаму Ксяндзу Віталію Чургану

з нагоды Імянін сардэчна жадаем апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя ў рэалізацыі Божых планаў, а таксама зычлівых і добрых людзей на святарскім шляху.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Юрацішкаў*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Бяганскаму

з нагоды 12-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні. Дзякуем Богу за дар Вашага паклікання і прысутнасць у нашай парафіі. Вам удзяны за дабрыню і будаванне сярод нас еднасці, за актыўнасць, дапамогу і зычлівасць, набліжэнне нас да Пана і паглыбленне веры праз абвяшчэнне Слова, за тое, што Вы здольны захапляцца Богам і абуджаць такое ж захапленне ў іншых. Жадаем Вам не адчуваць сябе адзінокім і магчы разлічваць на дабрыню і любоў сэрцаў вернікаў. Не дазваляйце нам зачарсцвець і згубіцца ў гэтым свеце. Будзьце для нас прыкладам, адорвайце міласэрнасцю і прабачэннем, якія паходзяць ад Пана. Няхай добры Бог узнагароджвае Вас сваімі шчодрымі ласкамі, здароўем, радасцю і ўменнем пераадольваць штодзённыя праблемы.

*Вернікі з парафіі Тракелі*

### Паважанаму Ксяндзу Яну Раманоўскаму

з нагоды Дня нараджэння жадаем здароўя, шмат Божых ласкаў у штодзённай святарскай паслузе. Няхай Вам заўсёды спадарожнічае Божая любоў, Святы Дух адорвае сваімі дарамі, а Найсвяцейшая Маці нястомна чувае над Вамі. Жадаем радасці, моцнага запалу ў выкананні штодзённых задач і абавязкаў, якія Вам даручае Касцёл. Любіце святарства і будзьце яму верным да канца жыцця. Ад усяго сэрца дзякуем бацькам за сына святара.

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі Радунь*

### Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, душэўнага супакою, Божага благаслаўлення і зычлівасці ад людзей. Няхай Святы Дух асвячае Ваш шлях на працягу ўсёй святарскай паслугі, а Маці Божая дадае сіл, цярплівасці і стойкасці. Няхай кожны дзень паслугі Богу і людзям прыносіць радасць і задавальненне.

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі Радунь*

### Паважанаму Ксяндзу Леону Ладышу

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя на доўгія гады жыцця, плённай працы на Божай ніве, нястомнай апекі Святога Заступніка і Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай смутак Вас абмінае, а жыццё заўсёды плыве ў радасці.

*З пашанай і малітвай удзячныя вернікі з парафіі Найсвяцейшай Тройцы, Войстам*

### Дарагі Ксёндз Пробашч Чэслаў Паўлюкевіч!

За 20-гадовую душпастырскую паслугу ў нашай парафіі прагнем сказаць Вам шчырае "Аддзяч, Божа". Не ўдасца словамі апісаць пачуццё ўдзячнасці за Вашу працу, ахвярнае фарміраванне нашых сумленняў і пастаў, набліжэнне нас да Бога і паглыбленне веры, за аптымізм і радаснае святарства, жыццё Хрыстовай запаведдзю любові, братэрскую дапамогу і зычлівасць, якую аказваеце кожнаму з нас. Дзякуем за ўсе душпастырскія візіты ў нашы хатнія Касцёлы і за адкрыццё дару Эўхарыстыі як крыніцы сілы, моцы і святла ў штодзённым жыцці. Дзякуем за гаспадарскі клопат пра нашу святыню, за нястомнае будаванне еднасці, кожнае благаслаўленне і ўдзелены сакрамант. Складаем таксама сардэчныя пажаданні, каб маглі перадаць ідэал святарства як мага большай колькасці святароў і клерыкаў у Беларусі. Няхай св. Ян Павел II выпрошвае для Вас у Езуса і Марыі ўсе неабходныя ласкі, каб маглі надалей умацоўваць духоўнасць еднасці, робячы з Касцёла дом і школу камуніі.

*Парафіяне*

### Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму

з нагоды 13-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, шмат сіл і цярплівасці, радасці і аптымізму на кожны дзень. Нізкі Вам паклон за верную, ахвярную службу, мудрыя і добрыя словы, адкрытасць на людзей і вялікае сэрца. Аддзяч Вам, Божа!

*З малітвай і ўдзячнасцю вернікі з парафіі Дварэц*

### Паважаны Ксёндз Дзмітрый Папянюк!

З нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем, каб як душпастыр Вы імкнуліся да мэты і нястомна адкрывалі дар і сэнс паклікання. Няхай здароўе і энергія спадарожнічаюць Вам на працягу доўгіх гадоў жыцця, дорачы задавальненне і радасць ад усяго, чаго ўдалося дасягнуць, і дазваляючы паставіць яшчэ шмат новых мэт. Жадаем стойкасці і цярплівасці ў рэалізацыі святарскай паслугі, шчодрых дароў ад Бога, апекі Найсвяцейшай Маці, сілы ў руках і чыстага агню ў сэрцы. Мы ж са свайго боку ахінаем Вас малітвай, каб Бог благаслаўляў ды нястомна ўмацоўваў сваёй ласкай і спакоем.

*Парафіяне з Росі*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Станіславу Пацыну

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, шчасця, радасці, душэўнага супакою і аптымізму. Няхай усе планы рэалізуюцца з Божай дапамогай, Найсвяцейшая Маці ахінае апекай і мацярынскай любоўю, а Святы Дух заўсёды будзе побач і спадарожнічае на жыццёвым шляху. Дзякуем маме за сына святара.

*Ружанцовыя колы, апостальства "Маргарытка" і парафіяне з Радуні*

### Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму

з нагоды 18-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем добрага здароўя, радасці, сіл, нязгаснага запалу ў душпастырскай працы. Няхай Святы Дух ніколі Вас не пакідае, Маці Божая моцна трымае за руку, а святы Заступнік заўсёды будзе побач і дапамагае годна перажываць кожны дзень.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Капцёўкі*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Радзюку

з нагоды 15-годдзя святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: моцнага здароўя, душэўнага супакою, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова і пераймання Хрыста. Няхай усемагутны Бог узнагародзіць Вас за веру і любоў да кожнага чалавека, а Найсвяцейшая Панна Марыя нястомна мае у сваёй мацярынскай апецы. Дзякуем Богу за ксяндза, а Вашым бацькам – за сына святара.

*Удзячныя вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Раманоўскаму

з нагоды 5-годдзя святарскіх пасвячэнняў і Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, радасці, поспехаў у душпастырскай паслузе. Няхай Езус Хрыстус ва ўсім Вам дапамагае, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух адорвае шчодрымі ласкамі. Імкніцеся за Панам з даверам і надзеяй, рабіце ўсё з запалам, цешцеся светам і сустрэтымі людзьмі, а Ваша сэрца няхай напаўняе любоў.

*З малітвай вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### Паважанаму Ксяндзу Эрнэсту Мікалайчыку

з нагоды Імянін і першай гадавіны святарскіх пасвячэнняў сардэчна жадаем моцнага здароўя і штодзённай радасці. Няхай дарога, якую Вы выбралі, будзе шчаслівай і добрай, каб Вы маглі шчыра служыць Богу і людзям. Няхай кожнае Ваша слова будзе голасам Бога, а кожны ўчынак – Яго дабрынёй. Няхай Святы Дух спасылае неабходныя дары, а святы Заступнік нястомна апекуецца Вамі.

*Парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

### Паважанаму Ксяндзу Антонію Адамовічу

з нагоды 10-ай гадавіны святарскай паслугі складаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Ваша духоўная моц узрастае з кожным днём, а прамень Божай ласкі заўсёды зззяе над галавой. Няхай на Вашым святарскім шляху заўсёды гарыць агонь веры і надзеі.

*Парафіяне з касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Індуры*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус напаўняе Ваша сэрца спакоем, радасцю і надзеяй, дапамагае пераадолець цяжкасці і будзе крыніцай святасці ў сённяшнім свеце. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а побач будуць толькі зычлівыя людзі. Дзякуем за Вашу шчырасць, дабрыню і ахвярную паслугу. Заўсёды памятаем пра Вас у малітвах.

*Касцёльны камітэт і вернікі з парафіі Унебаўзяцця НПМ у Дзятлаве*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com; **http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 5078; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная